# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1539) ГОД XXX БЕЛАСТОК 10 ЛІСТАПАДА 1985 г. ЦАНА 10 зл.



На сцэне беластоцкія аматары сцэнічнага мастацтва (злева направа): Яўгінiя Андросюк, Янка Крупа і Антаніна Боўблей. (Да артыкула „Улюбёныя ў роднае“ па стар. 4).

Нашы ІНТЭРВ'Ю

## ЗЯМЕЛЬНЫЯ СПРАВЫ

Як выглядаюць зямельныя справы ў Бельскай гміне, найбольшай у Беластоцкім ваяводстве, расказвала нам кіраўнік аддзела геадэзіі і зямельнай гаспадаркі інжынер Вольга Семянюк.

— У Бельскай гміне, — сказала яна, — шэсцьдзесят вёсак, а ў іх разам дзве тысячы дзевяцьсот гаспадарак на дваццаці шасці тысячах зямельных угоддзяў. Цяпер у гміне 736 пенсіянераў, якія перадалі сваю зямлю дзяржаўнаму казначэйству. Сёлета 61 гаспадар (425 га зямлі) звярнуўся з просьбай прыняць іх гаспадаркі ў замен за пенсію. Ужо 35 гаспадарам уладжана перадача зямлі, а 10 гаспадарам адлажылі гэтыя справы на пазней, таму што адзін з супругаў не мае пенсіянерскіх гадоў.

— Што дзеецца са здадзенай дзяржаве зямлёй, хто яе абрабляе? — пацікавіўся я.

— Мы прадаем зямлю. У бягучым годзе 153 гаспадары падалі заявы на куплю зямлі. Але купяць яны толькі па некалькі гектараў і разам усяго 247 га. Апрача таго, здаем мы зямлю ў арэнду, якая стала цяпер стабільнай: здаецца зямля на 10 год апрацоўкі і нельга гэты перыяд скараціць (не так, як было ў мінулым, што гміна, калі хацела, тады магла адабраць назад арандаваную зямлю). 522 га зямлі належыць да пенсіянераў. Аднак гэта ўсё яшчэ не вырашае справы. Дзяржаўнага фонду зямлі ў пачатку года было 2234 га, а ў арэндзе — усяго 1446 га. Ды за пенсію здаюць сяляне куды больш зямлі, чым купляюць і бяруць у арэнду. Новыя гаспадаркі не ствараюцца ў нас. Старэе вёска.

— Дык што ж будзе праз 10 год?

— Зрабілі мы арыентацыйны аналіз, апытанне гаспадароў, якім больш 50 год, што яны зробяць са сваімі гаспадаркамі праз 10 год. З гэтага апытання вынікае, што да 1995 года нам

(Працяг на стар. 6)



Фота Юркі Трачука.

## ДОЖДЖ Л. СТАФА

Адкуль мне знаёмы
Дождж гэты ахрыплы,
Яго галашэнні,
Няўстрымныя ўсхліпы.

Яго звон у шыбы
Нязмоўчны, нязменны?
Няўжо гэта Стафа
Дождж даўні асенні,

Які са мной брыў
Па этапнай дарозе
Парой беспрасветнай
У стоме-знямозе?

Няўжо ён сягоння
Прыпомніў былое?
Пайду. Можа неяк
Яго супакою.

Максім Танк



АДГАЛОСКІ

## НЕ ПРА ГАЛОЎНАЕ Ў НАС ГУТАРКА

Чытаючы Алеся Барскага „На мяжы“, асабліва ў вераснёўскіх нумарах „Нівы“, складаецца ўражанне, што стаўка — аварыйнае амаль утрыманне беларускай нацыянальнай з'явы, якая, мабыць, блізкая свайго знікнення на вякі векавечныя. Ці мы нацыя самагубцаў? — можна і так. Здзяйсняецца роспачнае прароцтва пранікнёнага Багушэвіча пра смерць усяго духоўна беларускага? Беларусы робяцца небеларусамі, што ўжо кожнаму, нарэшце, стала відавочным. Іхныя патрыёты — „апошнія магікане“ з адчуваннем свайго жыцця як прамарнаванага ў імя безнадзейных мэт?

Трэба ставіць сабе цвёрдыя пытанні, каб не апусціцца ў дзіцячы свет ілюзій або ў супакойваючае самаашуканства невылечна хворага. А дапоўніць іх і такім: калі беларуская культура сканае як маладая нябожчыца, дык ці не будзе яна выкраслена з рэестраў здабыткаў, прынамсі Еўропы?

Для нас гэта, вядома, панурыя пытанні, якія можна супыняць контрамі накшталт: нацыянальнае выяўляе сваю жывучасць неабавязкова ў карэннай мове (аб чым засведчваюць сярэднявечча, лёсы яўрэяў ці брытанскіх народаў). Так, але праўда не існуе ў адарванасці ад канкрэтаў. А яны ў нас — тут цалкам веру Барскаму — адназначна ўказваюць на проста містычную сваёй разумнай невытлумачальнасцю моўную асіміляцыю, пераўтварэнне беларусчыны ў мёртвы, археалагічны помнік (што пакуль паўбяды). Хачу сказаць наступнае: прыглядзеўшыся да нацыяў, што страцілі свае мовы, — ірландцы, для прыкладу, — відаць у іх адно галоўнае, дзякуючы якому не прапалі яны зусім, гэта: пашыраная ў людзе памяць пра сваё мінулае, званая іначай гістарычнай свядомасцю. Якраз яна, гэткая свядомасць, вырашае пра нашае быць нам ці не быць!? Таму Барскі, па-мойму, прыдае занадта вялікае значэнне навучанню беларускай мове і яе публічнаму выкарыстанню. Услед за тым (памылковы зыход дае памылковы вынік) няцэльна каментуе ён факт аж самааддананага захаплення ўсім, што польскае, нават у „беларускіх“ ліцэістаў і ў студэнтаў — увага! — беларускай філалогіі. І мяне некалі шакіравала такая, мякка кажучы, неахвота заставацца сабою, патомным беларусам, і

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XI)

Аб чым сведчыць падмазванне чалавека пад чужую нацыянальнасць? Аб чым сведчыць усякае прыкідванне?

Перш за ўсё аб унутранай слабасці.

Аб браку веры ў каштоўнасці і вартасці сваёй нацыянальнасці, веравызнання, ідэалаў.

Аб маладушнасці і труслівасці.

Аб унутранай фальшы і мане.

Аб яго прыроджанай або набытай схільнасці да здрады.

Аб імкненні да таго, каб быць на баку большых і мацнейшых.

Незалежна ад таго, да якой з гэтых уласцівасцей аднясем такіх ці іншых беларускіх рэнегатаў, трэба ад іх уцякаць як найхутчэй і як найдалей, бо вядома, што чалавек, які не захаваў вернасці ў адносінах да самога сябе, напэўна здрадзіць тым чужым, да якіх ён далучыўся, калі толькі прыйдзе да вываду, што гэта яму аплоціцца.

Зразумела, што такому чалавеку не можа ў ніякім выпадку давяраць дзяржава. Я не веру, што той, хто падмануў дзяржаву ў справе сваёй нацыянальнасці, не ашукае яе ў многіх іншых справах, скажам, тады, калі знойдзецца па-за яе межамі. Мана, пакража, хабар страшны толькі тады, калі чалавек робіць іх першы раз. Пасля ўжо ўсё ідзе лёгка і проста. І таму я асабіста быў бы за тым, каб у ніякім выпадку не выпускаць за мяжу тых, хто ў анкетах ашукоўвае дзяржаву ў такой важнай справе, як нацыянальнасць. Чалавек, які здрадзіў грамадскай сістэме ці ідэалогіі, можа тлумачыцца тым, што сталася гэта з прычыны яго ідэйнай эвалюцыі. Пры здрадзе нацыянальнасці ніхто на свеце не мае ніякага вытлумачэння і апраўдання.

Здаецца мне, што ў працэсе прыспешанага пакідання беларусамі сваёй нацыянальнасці вінаваты таксама так званыя публікатары і школы. Я яшчэ ніколі не чуў, каб аб гэтых справах гаварылася ў тэлебачанні, радыё або пісалася ў газетах. Наколькі мне вядома, аб нацыянальных справах у Народнай Польшчы не гаворыцца ў ніякіх школьных падручніках. Не гаворыцца аб гэтым у часе школьных заняткаў па гісторыі або грамадазнаўству. Абмінаецца гэта тэма і на сустрэчах з бацькамі або ў часе выхаваўчых гадзін.

Думаецца мне, што актуальнасць і важнасць гэтай праблематыкі асабліва істотная на тэрыторыі, змешанай этнічна, або на міжнацыянальным паграніччы. Значыць, дзе як дзе, але на Беласточчыне існуе неабходнасць выясняючых дзеянняў у нацыянальных справах.

Польскае, беларускае, літоўскае, украінскае, яўрэйскае ці цыганскае дзіця, вырастаючы, павінна пераканацца, што яго нацыянальнае паходжанне, папершае, у нічым не лепшае і не горшае, чым паходжанне дзіцяці, якое належыць да іншае нацыянальнасці. Падругое, яго паходжанне не звязана ані з большымі, ані з меншымі правамі ці абавязкамі, чым правы і абавязкі дзяцей іншых нацыянальнасцей. Па-трэцяе, яго нацыянальнае паходжанне забавязвае да таго, каб быць добрым і лаяльным грамадзянінам Народнай Польшчы.

Хтосьці скажа, што ўсё гэта ёсць у канстытуцыі і хопіць. Якраз не хопіць. Мільёны людзей не прачыталі і ніколі не прачытаюць тэксту канстытуцыі, а нават калі б і прачыталі, дык гэта не значыць, што адразу ўспрынялі б сэрцам усе яе прыгожыя ідэі. І таму існуе неабходнасць паўтараць многа, многа разоў пэўныя, здавалася б, элементар-

**(Працяг на стар. 7)**

# Веснкі з Беларусі

## КІБЕРНЕТЫКА СЛУЖЫЦЬ ВЁСЦЫ

Камплектаванне машынна-трактарнага парку ў гаспадарках Беларусі ўзяла на сябе кібернетыка. Даныя аб патрэбнасці ў тэхніцы для кожнага калгаса і саўгаса выдала ЭВМ галоўнага інфармацыйна-вылічальнага цэнтра Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР.

Кампютэр зыходзіў з агульнай колькасці трактараў, камбайнаў, аўтамабіляў, якія ёсць у наяўнасці і бесперабойна працуюць, і тых, што знаходзяцца ў рамонце. Улічыў ён і мясцовыя асаблівасці палёў, ураджайнасць культур, валавы збор збожжа. Параўноўваючы кожны з параметраў з нарматыўным, электроніка выдае аб'ектыўную заяўку на новую тэхніку для гаспадаркі, па якой яна ўжо на базах забеспячэння абновіць парк машын.

## ЗА ПРАЦОЎНЫЯ ПОСПЕХІ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў званні Герояў Сацыялістычнай Працы групе работнікаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Сярод удастоеных гэтай высокай узнагароды — токар-расточнік Гомельскага станкабудаўнічага завода Уладзімір Швароў.

## ДЛЯ ПОШУКУ НАФТЫ І ГАЗУ

У Гомелі прайшла Усесаюзная навуковая канферэнцыя, прысвечаная праблемам стварэння сучасных сейсмаразведачных комплексаў для пошуку нафты і газу на сушы. Сярод яе ўдзельнікаў былі супрацоўнікі навуковых і праектных арганізацый Акадэміі навук СССР, Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, шэрагу іншых міністэрстваў і ведамстваў краіны. Вучоныя Масквы і Ленінграда, Кіева і Мінска, Куйбышава і Новасібірска намецілі шляхі вырашэння наспеўшых праблем, інтэнсіфікацыі нафтагазаразведачнай галіны на аснове дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Гомель не выпадкова быў выбраны месцам правядзення гэтай канферэнцыі. У апошняе дзесяцігоддзе горад стаў цэнтрам стварэння паверхневых крыніц для пошуку нафты і газу. Сейсмічная тэхніка, сканструяваная і выробленая гомельскімі спецыялістамі, дае магчымасць весці разведачныя работы без бурэння і выбуху, не парушаючы экалогію глебы. Акрамя таго, новая тэхналогія эканоміць сотні тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў.

## ПРАЖА ДЛЯ АДЗЕННЯ

Вялікім вопытам у пакупнікоў карыстаюцца вырабы з новых відаў пражы, распрацаваных Мінскім эксперыментальным сыравінным аддзелам Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута трыкатажнай прамысловасці сумесна з прадзільнымі і трыкатажнымі прадпрыемствамі рэспублікі.

Апошняя іх работа — пража фасоннага кручэння, вырабы з якой ужо з'явіліся ў продажы. Прыгожы выгляд палатну і вырабам надаюць іскрынкі з розных каляровых нітак. Пры гэтым выкарыстоўваецца шарсцяная і паўшарсцяная пража, што дазваляе захоўваць добрыя спажывецкія ўласцівасці вырабам. Яны не мнуцца, не электрызуюцца, мяккія, добра трымаюць форму.

Для верхняга трыкатажу спецыялісты выбілі пражу розных відаў з эфектам тыпу „іней". Для гэтага прыменены шарсцяныя і хімічныя валокны.

## СПОРТ

■ Традыцыйная сустрэча цяжкаатлетаў „Дынама" (СССР) і „Руда Гвезда" (ЧССР) прайшла ў Брэсце.

Савецкія спартсмены заваявалі шэсць першых месцаў і атрымалі агульнакамандную перамогу. У вагавай катэгорыі да 60 кілаграмаў лепшы вынік паказаў барысаўчанін В. Харытончык.

■ На чэмпіянаце Савецкага Саюза па спартыўнай гімнастыцы вызначыўся віцябчанін А. Туміловіч. У адвольных практыкаваннях і на кані ён заваяваў дзве сярэбраныя ўзнагароды.

■ Спаборніцтвы марафонцаў на Кубак СССР прайшлі ў Вільнюсе.

Сярод мужчын упэўненую перамогу атрымаў магілёўчанін В. Мазгавы. А да гэтага беларускі спартсмен выйграў таксама Кубак краіны ў бегу на дыстанцыі 10 000 метраў.

■ Першынство свету на дзюдо прайшло ў Паўднёвай Карэі. У вагавай катэгорыі да 86 кілаграмаў бронзавым медалём узнагароджаны мінчанін В. Пясняк.

■ На адкрытым чэмпіянаце Літвы па марскому шматбор'ю вызначыўся спартсмен з Гродна Ю. Нямера, які заняў першае месца ў асабістым заліку.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## АДНА З САМЫХ НЕБЯСПЕЧНЫХ ПРАФЕСІЙ

Не ад добрага жыцця ў гэтым годзе ўлады ЗША вымушаны былі даць настаўнікам права на адвольны вобыск вучняў і іншыя паліцэйскія функцыі, амаль да прымянення ў некаторых штатах „электрычных розгаў", аналагічных „электрабізуну" для жывёлы. Асобным аб'ектам насілля сталі самі настаўнікі, якія ў пачатку новага навучальнага года становяцца частымі наведвальнікамі папулярных у Нью-Йорку магазінаў фірмы „Застанься ў жывых". Там каля прылаўкаў часта можна назіраць наступныя сцэны:

— Сэр, я настаўнік, закончыў каледж і, самі разумееце, што мне патрэбна адпаведная экіпіроўка!

— Вядома, сэр, я да вашых паслуг. Лепш за ўсё вам падыдзе „кольт" 32-га калібру.

— Я не гангстэр, сэр.

— Калі ласка, паважаны, паглядзіце пісталеты „суботні", „вячэрні" — яны надта папулярныя сярод жанчын і інтэлігентаў.

— Не тое, сэр! Дайце мне „Харынгтон энд Рычардсан" 22-га калібру, ён прыгожы і надзейны!

— Як хочаце! Гэта сапраўды надзейная зброя, яна не толькі прашывае, але і патрошыць! Дазвольце прапанаваць вам яшчэ навінку — куленепрабівальную кашулю. Яна прыгожая і тонкая, зусім будзе незаўважанай пад пінжаком. Гэта для таго, каб не заўважылі вучні, інакш яны будуць страляць у галаву. Нічога не зробіш, такая дзіцячая філасофія: „стрэльнуць — як плюнуць". Вы ж, напэўна, чыталі аб выніках „шмону", які праводзілі ў 111 школах Нью-Йорка? Толькі за чатыры месяцы ў гэтых „саплякоў" было адабрана 76 рэвальвераў, 2 вінтоўкі, 575 нажоў, сотні брытваў і іншых востра заточаных прадметаў!

— Жахліва! Вядома, бяру!

— На вашым месцы я не адмовіўся б і ад тузіна балончыкаў са слёзатачывым газам. Раздурэюцца школьнікі — націсніце кнопку! Увесь клас у слязах і поўнае супакаенне!

— О'кей, бяру!

— Так, ледзь не забыўся пра радыёмаяк, уманціраваны ў аўтаручку! Запэўніваю, вельмі спатрэбіцца, калі вас, крый Божа, украдуць вашы свавольнікі! Не паспеюць яны апамятацца, як наляціць паліцыя. Паведамяць жа ёй аб вашым месцазнаходжанні сігналы маяка!

— Гэта ж цудоўна! Загарніце мне і маячок! Дзякуй за ўсё!

— Не спяшайцеся дзякаваць, не выключана, што вашы свавольнікі ў гэтым годзе зменяць не толькі тактыку, але і сродкі нападзення... прыдумаюць штосьці накшталт ядзерных гранат... але вы і тады не адчайвайцеся, а спяшайце ў наш магазін. „Застанься ў жывых" — не пакіне вас у бядзе.

* ✲ *

Не бяромся настойваць на дакладнасці дыялогу паміж настаўнікам і прадаўцом, у падобных магазінах. Аднак, факт застаецца фактам: паводле афіцыйных даных, штогод у школах Амерыкі адбываецца 100 забойстваў, 9.000 згвалтаванняў, 70 тысяч нападзенняў на настаўнікаў і больш як 200 тысяч нападзенняў на школьнікаў. Да прыкладу, у Мічыгане кожны пяты настаўнік падвяргаўся нападзенню.

Старшыня прафсаюза настаўнікаў ЗША Джон Рыор у адным з інтэрв'ю бастонскай газеце „Крысчэн саенс манітор" заявіў, што прафесія настаўніка цяпер — адна з самых небяспечных.

**К. Ч.**

## ПАСЛЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў НОВЫМ СЕЙМЕ

1) Уладзімір Каладзеюк — інжынер-меліяратар, І сакратар Ваяводскага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі ў Беластоку, 48 год.

2. Зыгмунт Лапінскі — тэхнік-тэхнолаг, старшы майстар Рамонтнага завода чыгуначнага транспарту ў Лапах, 44 гады.

3. Данута Муранка — кантралёр якасці на Беластоцкім камбінаце баваўнянай прамысловасці „Фасты" ў Беластоку, 25 год.

4. Гертруда Орляч — настаўніца, дырэктар Дзяржаўнага дзіцячага дома ў Беластоку, 51 год.

5. Міраслаў Садоўскі — селянін з вёскі Яжэва Старое Тыкацінскай гміны, 50 год..

6. Яўген Чыквін — інжынер чыгуначнага транспарту, старшыня Ваяводскага аддзялення Хрысціянскага грамадскага таварыства ў Беластоку, 36 год.

7. Юзэф Шавец — дырэктар Мясцовага аддзялення Галоўнага ўпраўлення збыту металічных вырабаў „Металзбыт" у Беластоку, 37 год.

## КВІТНЕЮЦЬ „ВАСІЛЁЧКІ" КАНЦЭРТАМІ

У бягучым годзе бельскі хор „Васілёчкі" прымаў удзел у цікавых культурных мерапрыемствах.

Адным з іх быў IX Цэнтральны агляд гурткоў культурнай самадзейнасці УГКТ, які прайшоў у чэрвені б.г. у Сопаце. На гэтым фестывалі украінскай песні „Васілёчкі" выступілі вельмі ўдала. Канцэрт хору, які налічвае больш 40 членаў, вельмі падабаўся сопацкай 10-тысячнай публіцы.

„Васілёчкі" прымалі ўдзел у рэйдзе дружбы на пазнанскай зямлі. 5.X.85 г. хор даў канцэрты каля мясцовасці Накла, а 6.X.85 г. — у Тамыслі Новым. Песні хору слухачы ўзнагародзілі бурнымі воплескамі і кветкамі.

10.X.85 г. хор выступіў у Бельску Падляшскім з нагоды ўручэння гораду Крыжа Грунвальда.

**Іван Кірызюк**



Беласток. Анганюк — новы жыллёвы квартал. Фота В. Рудчыка.

*Легенды нашай зямлі*

# МАРА Ў БАБ'ЯЙ ГАРЫ

Калісьці найвялікшым няшчасцем людзей быў не пажар, не голад, нават не вайна, а мара або зараза, ці, як цяпер гавораць, эпідэмія. Мара розных хвароб вынішчала цэлыя вёскі, аколіцы, нават краіны. У вёсцы Баб'я Гара, што стаіць на высокім пагорку паміж ракою Нарвай і Белавежскай пушчай, мне расказвалі такое.

Калі дайшла чутка да вёскі, што непадалёк паявілася мара мужчыны запрагалі ў ярмо сівага вала і абворвалі сахою навокал вёску, каб хвароба не перайшла праз баразну. У тым жа часе жанчыны і дзяўчаты збіраліся разам і за адну ноч напрадалі з ільну нітак і вытыкалі з іх ручнік, які перад узыходам сонца навязвалі на крыж, што стаяў на канцы вёскі.

Зразумела, што ўсё гэта не магло перашкодзіць мары. І яна, калі ўжо бышцам бы ўрывалася ў вёску, імчалася па вуліцы ды касцянымі пальцамі стукала ў вокны хатаў і крычала: „Была бяда, была бяда, а цяпер будзе вам ліха".

І вось аднойчы, калі так бегла мара па вуліцы Баб'яй Гары і стукацела па вокнах, адзін селянін, называўся Пракоп, сядзеў сабе на прызбе сваёй хаты ды пакурваў люльку.

Пыхнуў цэлую хмару дыму... Раз пыхнуў, другі, а калі пыхнуў трэці, бачыць — мара нейкая белая каля акна яго хаты стаіць, ды касцяным пальцам у шыбу стукоча. Пракоп доўга не думаючы, цап яе за касцяную руку ды і кажа:

— Дзеці і жонка паснулі, перастань барабаніць!

— Ах, дык ты асмеліўся мяне за рукі чапаць, — узлавалася мара. — Ці ты не ведаеш, хто я? — ускрыкнула яна.

— Адкуль жа мне ведаць, панечка? — атрупянеў ад страху Пракоп, ды задам да дзвярэй сваёй хаты пачаў падавацца.

— Ну, дык ведай, я самая тая халера! — выкрыкнула яна, ды так дзіка зарагатала, што ў Пракопа ад жаху мову адняло, ды з заляскацеўшых зубоў люлька выпала.

— Чаго затросся? — гукнула на яго халера. — Пакуль я памру, ты мне патрэбны да іншага. Бяры мяне на свае плечы ды нясі па свеце. Толькі не абмінай ніводнага сяла, ні горада. На старыя гады цябе пушчу, дык пажывеш яшчэ крышку.

Сказала яна так Пракопу, ды на плечы яму ўзабралася. Пракоп на плячах не адчувае ніякай вагі, як паветра, такая лёгкая. Падумаў ён сабе: „Вядома, мара ж яна", ды павалокся да бліжэйшых вёсак. Увайшоў у вёску Нарва, а там па карчмах балі, спевы ды вясёлосць на кожным твары. Але як толькі ён затрымаўся на рынку ды мара ўзмахнула сваёй белай плахтаю, спынілася адразу музыка, замоўклі песні. Куды ні глянь, усюды на вуліцы трупы і труну за труною на могілкі нясуць, а там ужо не хапае месца. Наглядзеўся Пракоп на гэтую смерць вакол, абамлелі ў яго рукі ды ногі і сэрца крывёй аблілося ад жаласці да людзей.

І давялося Пракопу насіць мару па вёсках ды гарадах доўга ці коратка, ажно і ў свае родныя бакі прыблукаў і бачыць: за рэчкаю на пагорку яго родная вёска стаіць. Перад вачыма ўсталі родныя старыя бацька ды маці і любая сэрцу жонка. А мара яшчэ хутчэй падганяе. Тады Пракоп выбраў месца ў Нарве найглыбейшае, ды ўброд у раку пайшоў. Іпоў і з кожным крокам глыбей, толькі моцна ўхапіў за касцістыя ногі мару, ды цалкам пад ваду пайшоў. Але мара, як паветра, узляцела над вадою. Пракоп жа так і застаўся на дне ракі.

Перапужалася мара такой настойлівасці Пракопа, які свайго жыцця не пашкадаваў, каб толькі выратаваць ад смерці родных дзяцей, бацьку, жонку ды вёску. Пабегла яна спачатку ў Белавежскую пушчу, паблукала па ёй некалькі дзён, а потым цалкам з гэтых бакоў падалася ў іншыя краі.

Так і выратаваў Пракоп ад смерці не толькі сваю сям'ю ды вёску, але і ўсё наваколле.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Некаторыя цікавейшыя магістэрскія працы, напісаныя ў Варшаўскім універсітэце, Філіял у Беластоку ў г.г. 1977-1982, якія датычаць Беласточчыны.


Jarmolik Włodzimierz — Geneza i pierwsze lokacje miast województwa podlaskiego (XI — pierwsza ćwierć XVI w.), historia, 1979/80, prom. S. Alexandrowicz.

Juchniewicz Jadwiga — Elementy wschodniosłowiańskie w antroponimii wsi Nowy Dwór koło Sokółki, filologia rosyjska, 1978/79, prom. M. Łesiów.

Kijowska Grażyna — Nazwy wodne w lewobrzeżnym dorzeczu środkowej Biebrzy, filologia polska, 1977/78, prom. I. Halicka.

Kłoczko Barbara — Elementy wschodniosłowiańskie w antroponimii wsi Rogawka koło Siemiatycz, filologia rosyjska, 1978/79, prom. M. Łesiów.

Kochanowska Jadwiga — Imiona i nazwiska absolwentów szkół podstawowych w Goniądzu w latach 1957/58—1977/78, filologia polska, prom. M. Jurkowski.

Kruszewska Olga — Imiona i nazwiska mieszkańców wsi Klejniki, filologia rosyjska, 1977/78, prom. M. Łesiów.

Kułak Helena — Elementy wschodniosłowiańskie w antroponimii wsi Czerwonka koło Dąbrowy Białostockiej, filologia rosyjska, 1978/79, prom. M. Łesiów.

Kurzynowska Jadwiga — Ludowe nazwy kwiatów i ziół w dorzeczu dolnej Brzozówki na tle historycznym, filologia polska, 1978/79, prom. I. Halicka.

Litwinienko Irena — Nazwy osobowe w księgach parafialnych parafii Suraż w XVII i XVIII wieku, filologia polska, 1978/79, prom. I. Halicka.

Makowska Henryka — Imiona i nazwiska uczniów szkół podstawowych, filologia polska, 1978/79, prom. M. Jurkowski.

Mikłaszewicz Elżbieta — Nazwy roślin leczniczych w gwarach Puszczy Białowieskiej, filologia polska, 1978/79, prom. M. Jurkowski.

Maliszewska Małgorzata — Polska terminologia sakralna (używana w regionie białostockim), filologia polska, 1980/81, prom. M. Jurkowski.

Mironiuk Tamara — Ludowe nazwy sprzętu gospodarczego i przedmiotów codziennego użytku na terenie gminy Drohiczyn i Siemiatycze, filologia polska, 1981/82, prom. I. Halicka.

Odziejewicz Helena — Elementy wschodniosłowiańskie w antroponimii wsi Koszele koło Bielska Podlaskiego, filologia rosyjska, 1978/79, prom. M. Łesiów.

Olszewska Janina — Ludowe nazwy ziół i kwiatów w lewobrzeżnym dorzeczu górnej Narwi, filologia polska, 1977/78, prom. I. Halicka.

Pełszyk Anna — Stosunki religijne w Białymstoku w XVIII wieku, historia, 1981/82, prom. S. Alexandrowicz.

Piątek Jolanta — Nazwy wodne w dorzeczu górnej Biebrzy, filologia polska, 1979/80, prom. I. Halicka.

Pogorzelska Krystyna — Imiona polskie w księgach metrykalnych parafii Giełczyn dekanatu knyszyńskiego (analiza semantyczno-strukturalna), filologia polska, 1977/78, prom. M. Jurkowski.

Puchalska Pelagia — Mikrotoponimia Brańska i najbliższych okolic, filologia polska, 1977/78, prom. M. Jurkowski.

Sawicka Dorota — Terenowe nazwy własne występujące w lewobrzeżnym dorzeczu środkowej Biebrzy (klasyfikacja strukturalno-gramatyczna), filologia polska, 1977/78 prom. I. Halicka.

Skiepko Małgorzata — Nazwiska polskie w księgach parafialnych dekanatu sokólskiego (analiza semantyczno-strukturalna), filologia polska, 1977/78, prom. M. Jurkowski.


**М.К. і Р.С.**

на яе, выйшаўшы на пенсію. Ужо сем год ніводная пастаноўка ў Беластоцкім аддзеле БГКТ не адбываецца без яго.

—Люблю сцэну, люблю выступаць перад людзьмі і цешыць іх, — заўважае ён зусім паважна. — З ахвотай працую на роднай мове для сваёй культуры.

Антаніна Боўблей таксама паявілася ў БГКТ з жадання ахвяраваць свой вольны час роднай мове і беларускаму мастацтву. Родам яна з Ярылаўкі каля Бабpоўнікаў, што ў Гарадоцкай гміне, але амаль усё жыццё яе звязана з Беластокам. Яна — дасканалая краўчыха, майстар па шыццю мужчынскіх кашуль. У дзявоцтве спявала і выступала ў пастаноўках у школе. Хоць мае шмат працы. бо ў яе ўжо ўнукі, ну і работа. і дом, але яна ўсё ж знаходзіць час, каб сістэматычна прыходзіць на рэпетыцыі, не спазніцца на выступленні. Яна дасканалая маці — выхавала двух салідных, дзелавых сыноў. Адзін з іх, Андрэй — вядомы рэгент хору пры мітрапалічым праваслаўным саборы ў Варшаве.

Дзе культура — там і моладзь! У тэатральным гуртку БГКТ у Беластоку самая ахвярная, самая адданая дзяячка — гэта Тамара Баран. Яе сталая, верная сяброўка — Яўгіння Андросюк. Іх калега не толькі па сцэне, але і добры сябра — гэта Уладзімір Федарук. Яны толькі што пачалі свой працоўны шлях у розных установах і прадпрыемствах Беластока. А Варшаўская 11 — месца выяўлення іхніх талентаў і замілавання да роднага. Пра іх мы яшчэ многа добрага пачуем.

Гэтым невялічкім, але дружным і працавітым калектывам кіруе Янка Крупа — самы ахвярны самадзейнік у БГКТ. Але яго дзейнасці хачу прысвяціць спецыяльны артыкул.

А цяпер усім ім — і старэйшым і маладзейшым — зычым новых удачаў у жыцці і на сцэне.

**М. Гайдук**

Фота аўтара

# ПРАЗ СЕМ ЗЯМЕЛЬ

Вярнуўшыся з „бэткаў", якіх не надта назбіраў, дзядзька Якім Шэшка з Клейнік радасна сустрэў нас на парозе старой бацькоўскай хаты. Вынес з тае хаты „стольчыкі" і мы расселіся на двары пад разлажыстым высокім дрэвам. Пастаянны і даўні чытач „Нівы", ён свой расказ пачаў ад верша, які некалі друкаваўся ў „Ніве" і які, як дзядзька гаворыць, напісаны пра яго. Якім Шэшка вывучыў верш на памяць.

Яшчэ малады тады быў я,
Як вёску пакінуў сваю.
У арміі польскай служыў я
У другую сусветну вайну.

Я біўся пад Монтэ-Касіна,
Глядзеў, як гарэла зямля,
Як кроўю салдацкай гасіла,
Як трупамі ўслана была.

Так. Восем год і тры месяцы не было мяне дома.

Як усё прайшло?

Нарадзіўся ў слаўным 1917, у Расіі, у Пензенскай губерні. Вярнуліся бацькі ў 1920, хату гэту паставілі ў 1923. Закончыў я пры санацыі 5 класаў школы, гэта было многа. У бацькі было 20 га зямлі і чатырох сыноў.



У 1939 паклікалі мяне ў польскую армію, трапіў у санітарную службу. Даслужыў да верасня. У Мілоснай каля Варшавы разбілі немцы наш эшалон. Потым ноччу ўсё ехалі, ехалі на ўсход, даехалі да Ковеля на Украіне. У нашай арміі наступіў разлад, і там нас інтэрнавалі і паслалі працаваць на чыгунку, дзе мы працавалі да савецка-нямецкай вайны.

Калі пачалася савецка-нямецкая вайна, мы адступалі на ўсход разам з Чырвонай Арміяй. У канцы 1941 г., калі прыехаў у Маскву Сікорскі, нас уключылі ў польскую армію. Ніхто нас не пытаў, ці мы хочам туды, ці не. А ў 1942 г. рускімі паяздамі вывезлі нас у Іран. Праз Іран, Ірак, Сірыю, Ліван, Палестыну праходзіў я. Цяжка было — 42 градусы цяпла, а ў снежні-студзені — 39 градусаў. Многа было ў той андэрсаўскай арміі беларусаў, украінцаў. Я зведаў тады ўсе большыя гарады Блізкага Усходу.

У 1944 г. у Порт-Саідзе (Егіпет) пагружаліся мы на параход у Італію. Тры тыдні плылі — дзень і ноч. З Крыта немец з арудзіяў біў па нас. Толькі шэсць чалавек засталося нас, што не хварэлі на марскую хваробу.

У маі наступалі на Монтэ-Касіна.

Потым ішлі мы ад горада да горада, і 9 мая 1945 застаў нас у Балоніі. Яшчэ 9 мая наляцелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі і забілі многіх.

Некаторыя з нашых з Італіі паехалі дадому. Я быў самотны, таму рашыў паехаць у Англію, між іншым, і таму, каб атрымаць дэмабілізацыйную адправу. Як у Англіі? Іншыя ад нашых звычаі. Англічане, седзячы за сталом, клалі ногі на стол. Пілі джын або віску, не пілі водкі. Увогуле не пілі многа, адзін кілішак. Усё тады ў Англіі было на карткі.

Прастаялі ў Англіі 10 месяцаў, і я не захацеў заставацца даўжэй. З Ліверпуля вадою, паўночнаю дарогаю 9 дзён ехалі ў Гдыню. Там быў абоз, там далі дакументы, што магу я ўсюды

(Праціг на стар. 6)




## ДАБРАДЗЕЙСТВА

Мець у кватэры газ, якое ж гэта дабрадзейства! Не трэба купляць вугалю, прывозіць яго, складаць, вядром насіць у кватэру, шукаць распалкі. Выносіць попелу не трэба. Пакрунеш толькі, запаліш — і вары! Жонка ўжо і забыла, як варыла без газу.

Беласток мае газу ўдосталь, бо аж тры розныя гатункі: газ прыродні, газ вугальны і газ вадкі. Не ўсе жыхары яшчэ, праўда, могуць карыстацца дабрадзействам газу, але з году ў год колькасць іх расце. У апошнія гады ў Беластоку вугальны газ замяняецца прыродным. Пры такім абмене трэба парабіць змены ў праводцы кухонных печак. І тут пачынаецца забава. Ля ўваходу ў блокавыя клеткі вывешана аб'ява аб тэрмінах прыстасавання газавых печак да новага газу. Просяць у іх, каб жыхары ў той дзень і час былі дома.

Пасля такой аб'явы прыходзіць у кватэру двое спецаў. Прабуюць зняць пальнікі ў газавай печы. Знімаюць лёгка тры, а чацверты, як на грэх, не хоча паддацца. Адзін стукае малатком, другі паганяе: гэта забярэ ў цябе некалькі гадзін, мы тут не дзеля таго, каб траціць час, трэба хутчэй ісці да іншых. А вы, звяртаецца да гаспадыні, падайце скаргу на чацверты пальнік у ВПГВ, няхай прыдуць і зробяць, то тады мы прыдзем і заложым новыя пальнікі. Не памаглі просьбы жонкі, сабраліся і пайшлі.

Жонка ходзіць нервовая, злосная, як аса, бо газ копціцца, брудзіць каструлі, і доўга варыцца страва. Звоніць жонка ў ВПГВ, просіць. А з другога боку тэлефона чуем: мы такой паслугі не прымем. Вы самі купіце нафту і часта змазвайце той пальнік. Тады ён лёгка знімецца. Жонка паслала мяне ў горад купіць нафты. А я ўжо шмат гадоў не купляў яе. Аб'ездзіў увесь Беласток, а нафту купіў у магазіне ля хаты.

Змазвае жонка пальнік, у хаце смурод, а ён ані руш. Далей нервовая атмасфера. І вось не вытрымала жонка і асабіста пайшла да спецыялістаў. Трапіла на іншых, не тых, што былі ўжо раз. Выслухалі просьбу, прыйшлі. Працавалі 15 мінут і ўсё зрабілі. Запаліўся ў печцы новы газ. Жонка, задаволеная, дала спецыялістам за працу „на бутэльку". Спецыялісты таксама выйшлі задаволеныя. А жонка прыйшла да такога вываду: трэба ўмець жыць і ўсё прыдзе само. Яна дык дакладна выконвае сваю працу за голую зарплату, а іншыя зарабляюць дадаткова.

Толькі адно яе цешыць ва ўсёй гэтай гісторыі, што не адна яна мела столькі перапалкі з дабрадзействам газу.

**В. Брацкі**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Дзе недагляд, там з кішэні даклад.

Дзе пакачаецца скацінка, там застанецца шарсцінка.

Дзесяць раз мер — і то не вер.

— Хто іх пусціў туды? — з недаверам спытаў Міша.

— То ж сядзяць, — адказаў Лёня, — адна шэсць гадоў, а другая восем.

— Калі ім так кепска, то чаму сядзяць? — запытала Крыся.

— Я табе скажу, — пачаў дзядзька Лёня. — На што ў жанчын розуму не хапае? Пакажа нехта 50 ці 100 зялёных, то яна пойдзе за ім. Пасля шле гэтыя грошы сюды. Але каму яны патрэбны? У мяне такая баба нічога не вартая, калі яна пакідае чатырохгадовага сына і мужа і едзе ў Амерыку валачыцца.

— Ужо там і валачыцца, — умешваецца ў размову Нюрка, якая толькі што ўвайшла ў хату і паспела прысесці. — То ж адна жанчына з суседняй вёскі была і не валачылася.

— А хто ведае, колькі яна неграў на сабе вазіла? — запытаў Мірэк і зараз дадаў: — мужчына ніколі на сабе не заробіць.

— Такіх не бракуе, — падтрымаў швагра Коля. — Яшчэ сёння адна ажно плакала, каб яе з сабою забраць.

— Што ж, Ізаўраў трэба вызваляць, — сказаў Мірэк.

— І што? Можа табе, жанатаму, трэба іх вызваляць? — злосна спытала Крыся.

— А каму ж іх вызваляць! Помніце, як мы нейк у Шымкі па піва паехалі. Сядзяць кавалеры, бы тыя слімакі, і што такі можа? — засмяяўся дзядзька Лёня.

— А ведаеце, у некаторых краінах, у Аравіі, здаецца, пасля смерці жанчыны яшчэ мужчыны маюць палавыя зносіны з ёю, — упэўнена сказаў Мірэк

— Я такога не чуў, — натапырыў вушы Міша. — Ідзі к чорту! Ты зусім дурны, — сказаў і адкінуў руку Мірка з плячэй.

— Не верыце? — не здаваўся Мірэк, — тры дні пасля смерці „зносяцца", яшчэ і падаграваюць для гэтага трупа.

— Перастань ты глупства гаварыць, — умяшалася Ірына, якая дагэтуль сядзела, бы мыш пад мятлой. — Можа ты ў „Кур'еры" вычытаў?

— А што той „Кур'ер"? — наліваючы чаркі, сказаў Коля.

— Давайце, хлопцы, паедзем да дзяўчат, — запрапанаваў дзядзька Лёня. — Вось зараз сядзем у самаход і паедзем у Беласток. Там у „Ручаі" дзяўчат якіх хочаш.

— Скажу я цётцы, — пагразіла Крыся, — вось тады вам будзе „Ручай"! Брыдка вам, дзядзька, каб жанаты мужчына аб дзяўчатах думаў.

— А бабы ўсё-такі на сабе заробяць, — вярнуўся да сваёй любімай тэмы Мірэк.

— Кіньма гэта ўсё! Ляпей возьмем ларнетку і пойдзем паглядзім, што на свеце дзеецца, — запрапанаваў Міша.

Усе яго прапанову падтрымліваюць, устаюць з крэсел і ідуць на двор. Там будуць глядзець праз ларнетку, пакуль не абрыдне.

**Аўрора**

# МУЗЫКА І СПЕЎ (1)

Чалавек вельмі даўно адкрыў ігру на інструментах. І быў гэта чалавек, як даказваюць многія вучоныя, семіцкай расы, які ад найдаўнейшых часоў на Блізкім Усходзе стварыў цэнтры высокай культуры: у Егіпце, Месапатаміі, Палесціне. У Біблії часта ўспамінаецца аб розных музычных інструментах і ігры на іх: гуслі— арфы, свірэля, флейта, ліра, габой, шмат ударных інструментаў — барабаны. Інструменты ў тыя старажытныя часы служылі найперш, а часам, як у яўрэяў, выключна рэлігійным мэтам — імі ўслаўлялася бажаство і яго ласка. Ігрой на інструменце выражалася радасць і ўдзячнасць за ўдачы, дары і плёны. Найбольш вядомыя нам і найстарэйшыя песні з тых даўніх часоў — гэта біблійныя псалмы Давіда, які сам быў здольным паэтам і музыкам, дасканала іграў на розных інструментах, а перш за ўсё на арфе.

Стары радавод музычных інструментаў пацвярджаюць археалагічныя раскопкі ў Уры Халдзейскім — вельмі старажытным горадзе, дзе нарадзіўся, але адкуль выйшаў шукаць абяцанай зямлі Аврам — першы вядомы ізраільскі патрыярх. Дык вось, англійскі археолаг Леанард Вулі рашыў праводзіць свае археалагічныя пошукі на месцах, апісаных у Біблії, і такім чынам знайшоў і раскапаў старажытны горад Ухалдзейскі над ракой Еўфратам. У раскапанай магіле цара вучоны ўбачыў астанкі страшнай цырымоніі пахавання. У тыя часы, калі паміраў цар ці царыца, разам з імі павінны былі быць пахаваны (некаторыя вучоныя кажуць, што ішлі дабраахвотна, іншыя, што пад уплывам наркотыка, а нават пад збройным прымусам) усе іхнія слугі — вольныя і нявольнікі, а таксама ўсе іх звяры. І якраз у раскапанай магіле Вулі знайшоў пацвярджэнне гэтай тэорыі. Знайшоў мноства шкілетаў „музыкантаў", якія да самага канца ігралі на сваіх інструментах. Калі праз тысячы гадоў магіла была адкрыта, іх рукі ўсё яшчэ сударажна сціскалі струны гусляў".

Археолагі знайшлі цудоўныя арфы, інкруставаныя золатам, упрыгожаныя залатымі галовамі звяроў.

У Егіпце ў XVI-XI стагоддзях да н.э. вядомая цэлая капела фараона, цара Егіпецкага. Сірыйцы і яўрэі значна ўзбагацілі рэлігійную музыку, а за імі пайшлі грэкі. **(авл).**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ




паднявольным татарскім „улусам".

І дадзенае Батыю слова Даніла стрымаў. Прабыўшы ў Сараі дзён 25, ён „отпущен бысть" (значыць, не па свайму жаданню, а па волі хана!). Вярнуўся ён ва Уладзімір на пачатку 1247 года, адсвяткаваў цудоўнае сваё вяртанне, бо спаткалі яго брат і сыны „и бысть плач обиде его и болшая же бе радость о здравьи его" і адразу ўзяўся за справу.

Нагоды не давялося доўга чакаць. „Тое же зимы Кондрат присла посол по Василка, река: „Поидемь на ятвязе", — паведамляе Галіцка-Валынскі летапіс. Так, гэта была гэтак званая разведка боем, як успрыйме Вялікае княства Літоўскае зачэпку. Вядома ж, войскі Конрада Мазавецкага і Васількі Раманавіча ў Яцвягію маглі трапіць, толькі прайшоўшы з поўдня на поўнач праз усё Дарагічынскае княства, якое ў тым часе, як з усяго відаць, было саюзнае для Вялікага княства Літоўскага. Мазавецкім і валынскім войскам удалося прайсці толькі да ракі Нура (сённяшні Нурэц), мабыць, па старажытным шляху з Дарагічына ў Візну і далей у Яцвягію. Але перайсці Нур яны ўжо не змаглі — на тым баку стаяла армія, заатакаваць якую яны не наважыліся ды... павярнулі назад. Гэты няўдачлівы паход, у якім выявілася надта ж яскрава палахлівасць „славных и предобрых" князёў Конрада Мазавецкага і Васількі Раманавіча, доўгі час наганяў на твары саюзнікаў румянец сораму, а ліслівы летапісец спрабаваў залагодзіць едкасць такой ганьбы тлумачэннем, быццам яны з-за „Падшу снегу и серену, не могоша ити и воротишася на Нуре". Што і казаць: тлумачэнне наіўнае да смешнасці: польскія і валынскія рыцары перапалохаліся выпаўшага снегу ды пакрыўшага дрэвы інею! Рэдка каторы з летапісцаў рабіў такія фокусы. Перад чыімі войскамі падаліся назад мазаўшане і валынцы — пра тое маўчаць летапісы. Можам толькі здагадвацца, што імі маглі быць аб'яднаныя сілы Дарагічынскага княства і суседніх з ім земляў — „пулек" Яцвягіі, магчыма, была таксама дапамога ад бліжэйшых суседзяў — Берасцейшчыны і Гарадзеншчыны.

Як бы там не было, але здарэнне з-над Нура (недзе ў ваколіцах сённяшняга Цеханоўца) было добрай навучкай для непрыяцеляў Вялікага княства Літоўскага. Да наступнага паходу яны рыхтаваліся доўга і старанліва.

У тым часе адбыліся асабовыя змены на княжацкім пасадзе на Мазоўшы. У недалёкім часе пасля вяртання з-над Нура памірае Конрад Мазавецкі і на мазавецкі княжацкі пасад узыходзіць яго сын Баляслаў, які, між іншым, быў жанаты на дачцэ князя бэлзскага Аляксандра — Анастасіі.

Гэтую перамену князі галіцка-валынскія скваліва выкарысталі для арганізавання супольнага паходу супраць Яцвягіі. Схілілі да гэтага і Баляславага брата — князя Земавіта. З запісу ў Галіцка-Валынскім летапісе са слоў Данілы і Васількі да яго: „Мы табе зрабілі дабро, дык пойдзем з намі на

(Працяг на стар. 8)




Дарагое Сэрцайка! Крануў мяне ліст Шукальнікаў. Сапраўды, развальваць дом з-за дробязнай сваркі — справа неразумная. Была і я „тэрапеўтам" у падобнай бядзе. У чарзе да зубнога лекара сустрэла я жанчыну сярэдніх год. Двое дзяцей. У судзе — справа аб разводзе.

„Чаму вы вырашылі разводзіцца?" — пытаю. „З гэтым чалавекам жыць больш немагчыма!" — адказвае. „Чаму?" — „Ды ўсяго і не раскажаш. Вось напрыклад, прыходжу я з работы, ён сам паеў, дзяцей накарміў, а скаваролку брудную мне пакінуў!"

Праўду кажучы, я ёй нават пазайздросціла. Сам паеў — за што яму ўжо вялікае дзякуй ды яшчэ і дзяцей накарміў! Але справа не жартачкі — развод. І я працягваю сваю — „тэрапію". „Муж дапамагае вам у гаспадарстве?" — „Так". — „Дзяцей любіць, клапоціцца пра іх?" — „Так". — „У вас з мужам бываюць добрыя хвіліны, дні, калі ўсё ў парадку?" — „Так". — „У вас, пэўна, не самы дрэнны муж, бываюць горшыя?" — „Так". — „Вы пажаніліся па любві?" — „Так".

А была ў мяне і больш кур'ёзная гутарка на разводную тэму.

„Чаму вы разводзіцеся? Ваш муж п'е?" — пытаю маладую, прывабную жанчыну. „Не". — „Мала зарабляе?" — „Не". — „Здраджвае?" — „Не". — „Што ж тады?" — „Ён маўчыць!!!"

Гаварылі тут ужо аб станоўчых прыкладах трываласці шлюбнага жыцця старэйшага пакалення, успаміналася вяртанне ў родны дом салдата з вайны. Гэта іншая справа, не вырашыць сённяшніх пытанняў. Менавіта сёння, у наш мірны і ўжо таму шчаслівы час, дэфіцыт духовай блізкасці адчуваецца жанчынай вастрэй, чым нават цяжкасці матэрыяльнага, бытавага характару.

**Тэрапеўт**

Калі б усім мужам і жонкам навучыцца такой „тэрапіі", зразумець вялікую прамудрасць адшукання адно ў другім не дрэннага, а добрага, хай нават для гэтага давядзецца праводзіць археалагічныя раскопкі! Яны акупяцца.

**ч.в.а. Сэрцайка**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

ныя праўды. Асабліва трэба гэта рабіць у школах і храмах у адносінах да дзяцей.

Але як жа будуць рабіць гэта тыя настаўнікі і тыя духоўныя, якія перакананы, што ўсе грамадзяне нашай краіны павінны кіравацца прынцыпам адзінароднай у сэнсе нацыянальным польскай дзяржавы? На жаль, такіх настаўнікаў і такіх духоўных у нашай краіне нямала. Значыць, трэба спачатку перавыхаваць многіх настаўнікаў і духоўных. Але як гэта зрабіць, можа, нехта ведае, бо я не вельмі.

**Алесь Барскі**

# НАСТУП ПАЧЫНАЕЦЦА

(Працяг са стар. 7)

яцвягаў“ вынікае, што яны нечым важкім абавязалі Земавіта да гэтага паходу, значыць, мэтанакіравана гуртавалі вакол сябе кааліцыю суседніх княстваў, нацэленую супраць Вялікага княства Літоўскага.

Можа ўзнікнуць пытанне: „Чаму яны атакавалі Яцвягію, а не самое Вялікае княства Літоўскае?“ З-за вельмі простай прычыны: яшчэ не адчувалі сябе настолькі моцнымі, каб заатакаваць яго, але стварылі да гэтага варункі выступаючы супраць натуральнага саюзніка Навагрудка. Бо скарыўшы Яцвягію, ліквідавалі апошнюю перашкоду да стварэння з крыжакамі супольнага фронту супраць Вялікага княства Літоўскага!

На гэты раз мазавецка-валынскія войскі сабраліся на Пабужжы „во Дорогычыне“. Значыць, Дарагічынскае княства або, каб захаваць сваё існаванне, вяло тады нейтральную палітыку і не супрацівілася сваім вялікім паўднёвым і заходнім суседзям, або ўжо было ў складзе Галіцка-Валынскай Русі. У кожным выпадку, не напаткаўшы супрацўлення, валынцы і мазаўшане „прейдоша болота (мабыць, сённяшнія багны Лаўкі над ніжнім цячэннем Бебжы — М.Г.) и наидоша на страну их (г.зн. Яцвягію)“. Потым у Галіцка-Валынскім летапісе знаходзім абшырнае апісанне, з якой заядласцю і бязлітаснасцю наезнікі знішчажалі ўсё, што трапілася ім на Яцвяжскай зямлі. Нягледзячы на пераважаючыя сілы непрыяцеля, яцвягі мужна абараняліся і раз-пораз то мазаўшане, то валынцы апыналіся ў вельмі крытычным становішчы. Хоць яны і пераадолелі раку Лук (сённяшні Элк — М. Г.), але глыбей у яцвяжскія землі пранікнуць не здолелі. Яцвягам з дапамогай прыйшлі прусы, борты і іншыя суседнія плямёны, і мазавецка-валынскія войскі вымушаны былі адступіць да Візны, а затым адысці за раку Нарву і падацца „на землю свою“.

Аднак і гэты другі няўдачлівы паход не адбіў ахвоты князям валынска-галіцкім да змагання супраць Вялікага княства Літоўскага. Але пра тое ўжо ў наступным адрэзку.

**М. Гайдук**

(Працяг са стар. 4)




чыцца альбо злачынец· які ці дурань! Няма ўласнай гісторыі ў свядомасці чалавека, нямаш і нацыянальнай у ім, а мова адна-адзінюсенькая яму таго не дасць, як не дала яна яе нашым несвядомым у сваім продкам, усім тым „тутэйшым“.

**Аляксандр Анташэвіч**

P.S. — Швейцарцы размаўляюць ажно чатырма, афіцыйнымі пры тым, нямецкай, французскай, італьянскай ды рэтараманскай у альпійскай энклаве памёрлай усюды латыні; амерыканцы ці шатландцы гутараць толькі па-англійску, але не дай Бог памыліцца ды назваць каторага англічанінам, альбо франкамоўнага бельгійца — французам!




Лады былі першым вясельным актам, у часе якога спяваліся песні. Амаль усе запрошаныя госці прыносілі гарэлку. Ставілі яе і гаспадары. Гарэлка спрыяла адпаведнаму настрою. Значная колькасць алкаголю, спажываемага ў часе гэтага рытуалу, спрыяла таму, што ў многіх мясцовасцях лады называліся запоінамі.

Зразумела, што ў часе ладоўзапоін дамінавалі вясёлыя, бадзёрыя песні. Іх мэта заключалася ў тым, каб падтрымаць на духу і маладуху, і маладога, і іх бацькоў. У некаторых тэкстах выступае матыў спрэчак у справе пасагу і надзеі на добрае жыццё маладой у новай сям'і.

Цікавы тэкст такога тыпу паходзіць з вёскі Багнюкі:

Пасварыліся і пагадзіліся,
Ручкі прыбілі для добрае згоды.
Добра, што хоць не пабіліся,
Даючы пасаг для малодых.
А наша (імя маладой), нібы кветачка,
Ужэ думкамі ў новай хатачцы:
Кланяйсе, кланяйсе, міленька дзетачка,
Сваяму бацькаві і сваёй матачцы.

У многіх вёсках бельска-падляшскага рэгіёна пасля дасягнутага паразумення ў часе ладоў маладому маладая ўручала сыр, які называлі „злюбленік“. Малады, завёзшы гэты сыр у сваю хату, частаваў ім усю сям'ю. Прывязенне „злюбленіка“ азначала, што стораны прыйшлі да поўнай згоды ў справе вяселля.

У вёсцы Крывая сяброўкі маладой пасля паразумення ў справе пасагу і вяселля выходзілі з хаты, хваталі з прызбы кастру і высыпалі ёю дарожку да сваіх хат.

Поўнае пагадненне падчас ладоў распачынала перыяд інтэнсіўнай падрыхтоўкі да вяселля, якое, як правіла, праводзілася месяцам пазней. У гэтым часе духоўны тры разы аб'яўляў публічна ў царкве аб тым, што такі-та а такі хлопец уступае ў сямейную сувязь з такой-та а такой дзяўчынай. У гэтай формуле была агаворка аб тым, што калі нехта мае да гэтай справы нейкія заўвагі, павінен іх зрабіць перад вяселлем. Галоўная мэта гэтай агаворкі заключаецца ў тым, каб выявіць, ці часам асобы, якія намерваліся жаніцца, не бралі ўжо царкоўнага шлюбу, калі б такое нешта здарылася, яны не мелі права на шлюб другі раз.

Вельмі істотнай справай, якой павінны былі заняцца маладая і малады, была справа падборкі функцый асоб на вяселле. У залежнасці ад рэгіёна Беласточчыны гэтыя функцыйныя асобы называюцца па-рознаму. Здараюцца выпадкі, што нават у вёсках амаль што суседскіх выступаюць розныя назвы і тэрміны для акрэслення тых самых вясельных чыноў. З гэтай прычыны абмяжуемся тут тэрміналогіяй, выступаючай найчасцей. І так, у групе маладой выступаюць: маршалак, старшая дружка, дружка другая, дружка трэцяя, старшы сват, сват другі, сват трэці, старшая сванька. Дружкі былі паннамі, а сванькай магла быць толькі асоба замужняя. У істоце ўсе сяброўкі маладой, якія ўдзельнічалі ў вяселлі, называліся дружкамі, аднак нумараваліся толькі тры першыя. Нумарацыя была істотнай таму, што яна акрэслівала месца дружак за сталом.

З боку маладога выступалі: маршалак, старшы сват, сват другі, сват трэці, старша сванька, сванька другая, сванька трэцяя.

Як маладая, так і малады, запрашаючы функцыйныя асобы на вяселле, адразу акрэслівалі іх разрад і характар у вясельнай урачыстасці.

Перыяд, які аддзяляў лады ад вяселля, маладая выкарыстоўвала для падрыхтоўкі пасцелі, макатак, ручнікоў і г.д. Маладая асабіста павінна была пашыць і выгафтаваць хустачкі для старшых сватоў, пры дапамозе якіх трымалі яны ў царкве кароны над галавой маладых. Павінна яна была таксама асабіста падрыхтаваць для маладога кашулю і кальсоны.

**А. Баршчэўскі**




## КАМПАНЕНТ НАПІТКАЎ І ШАМПУНЯЎ

У нашых „Таямніцах“ ужо няраз успамінаў я пра тое, як народныя лекары зёлкамі і знахары зайздросна сцераглі таямніцы сваіх ведаў. Аказваецца, што нішмат змянілася і ў нашым цывілізаваным свеце. Прыклад: таямніца рэцэптуры на нарыхтоўку „Кока-Кола“ і „Пепсі-Кола“. Нягледзячы на тое, што гэтыя напіткі вырабляюць ужо больш за 50 год, ніхто не можа расшыфраваць складу іх эсенцыі. Вядома, якая раслінная сыравіна для гэтага ўжываецца, але невядома, якія злучэнні і ў якой прапорцыі. Адно з зёлкаў, якія ўжываюцца для вырабу газіраваных напіткаў, — гэта мыльнік лекавы (лацінская назва — Saponaria officinalis, mydlnica lekarska — па-польску, мыльнянка лекарственная — па-руску).

Гэта шматгадовая расліна, 30-70 см вышыні, з вялікімі белымі альбо бледна-ружовымі кветкамі. Цвіце ўсё лета: ад чэрвеня да верасня. Ва ўсёй Польшчы даволі пашыраная. Найлягчэй яе знайсці на берагах рэк, равоў, у кустах. Для лячэбных і гаспадарчых мэтаў выкарыстоўваюцца карэншчы і корані мыльніка. Збіраюць іх у кастрычніку-лістападзе, таму што тады найлепш відаць, якія карані належаць да гэтай расліны. Карэншчы мыльніка тонкія, разгалінаваныя, круглыя.

Назва расліны — мыльнік — не выпадковая. Яшчэ ў палове пяцідзесятых гадоў бабулька Шчарбачыцкая з Белавежы не хацела мыць галаву ні чым іншым, як толькі выварам з карэнняў мыльніку. Да гэтага вывару дадавала крыху напарання з зелля рамонку або шышкаў хмелю, а часам таксама крыху вады, якой папярэдняга дня заліла попел з дроў, нарыхтаваных з клёну. Такім спосабам нарыхтаваны натуральны шампунь ні ў чым не ўступаў сённяшняму дэтэргентаваму, які вырабляюць самыя славутыя парфумерыйныя фірмы.

Лёгка растваральныя ў вадзе і даючыя пышную пену сапаніны, якія знаходзяцца ў карэнях мыльніку, якраз і выкарыстоўваюцца ў гаспадарцы і медыцыне. Выварам з мыльніку можна сціраць ваўняныя вырабы і тканіны, а таксама далікатныя шоўкавыя тканіны. Экстракт з карэння мыльніку ў парфумернай прамысловасці ўжываецца для вырабу шампуняў, а ў спажывецкай прамысловасці ён — важны дадатак у вырабе халвы, крэмаў, газіраваных напіткаў і піва.

З прыкладамі выкарыстання мыльніку ў народнай медыцыне на Беласточчыне мне не давялося сустрэцца. Аднак вядома, што сучасная медыцына экстракт з карэння мыльніку рэкамендуе „пры вострых і зацяжных катарах бронхаў (бранхіце), асабліва пры выдзяленні невялікай і сухой макроты“. У кнігах па лячэнню зёлкамі згадваецца, што вывар з карэння мыльніку ўжываюць для паласкання горла пры ангіне і для зёлкавых ваннаў пры некаторых хваробах скуры, як экзема, лішаі, скулы.

Хатнім спосабам можна нарыхтаваць напаранне ў прапорцыі: адна лыжка пакрышанага карэння мыльніку на дзве шклянкі вады, піць 2-3 разы ў дзень па адной-паўтары лыжкі. Для зёлкавых ваннаў ужываюць пяціпрацэнтны вывар (літр вывару на 20 літраў вады). Аднак варта памятаць, што вялікія порцыі вывару або спіртавай наліўкі з карэнняў мыльніку могуць выклікаць атручанне, кашаль, ваніты, сутаргі або дрыжыкі.

**Б. Паскробка**

## Куток практычных ведаў

### ЗАХАВАЙЦЕ ДА ВЯСНЫ

**Цыбуля і часнок.** Лепш іх захоўваць сплеценымі ў вянкі, але ў прахалодным і сухім памяшканні. Ніколі не вешайце іх ля печы на святле, там, дзе шмат пары. Папярэдне цыбулю і часнок трэба добра падсушыць, іх нельга захоўваць, калі яны хоць крыху вільготныя. Калі няма дзе іх падвесіць, пакладзіце ў скрынкі з адтулінамі і час ад часу перабірайце. Толькі не забудзьцеся, што галоўная ўмова для добрага захавання — каб яны былі абсалютна сухія. Найлепш захоўваюцца вострыя гатункі.

**Сухія грыбы.** Сёлетняе лета спрыяльнае для збору грыбоў. Не забудзьцеся назапасіць на зіму сухіх. Грыбы трэба старанна высушыць, але не трымайце падвешанымі на вольным паветры. Сухія грыбы трэба захоўваць у шчыльна закрытым посудзе, бо інакш улятучыцца іх непаўторны водар. Для захавання сухіх грыбоў дастаткова тэмпературы +10 — +12 градусаў, таму іх можна ў падвал не выносіць.

**Яблыкі.** Пакладзіце іх у падвал на чыстыя паліцы з дошак. Укладваць яблыкі трэба абавязкова чаранкамі ўніз.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Яўген Носаў

## ТРЫЦЦАЦЬ ЗЯРНЯТАК

Ноччу на мокрыя дрэвы ўпаў снег, сагнуў галіны мяккім вільготным цяжарам, а потым яго схапіла марозікам, і снег цяпер трымаўся на галінах моцна, як зацукраная вата.

Прыляцела сінічка, паспрабавала раздзяўбсці наледзь. Але снег быў цвёрды, і яна заклапочана паглядзела па баках, нібы пыталася: „Што ж цяпер рабіць?"

Я адчыніў фортачку, паклаў на абедзве перакладзіны падвойных рам лінейку, замацаваў яе пінэскамі і праз кожны сантыметр расклаў канапляныя зярняткі. Першае зернетка аказалася ў садзе, зернетка пад нумарам 30 — у маім пакоі.

Сінічка ўсё бачыла, але доўга не адважвалася зляцець на акно. Нарэшце яна схапіла першую канаплінку і панесла яе на галіну. Спрытна раздзёўбшы цвёрдую шкарлупінку, яна выцягнула зернетка і з'ела.

Усё абышлося бяспечна. Тады сінічка, улавіўшы момант, падабрала зернетка нумар два...

Я сядзеў за сталом, працаваў і час ад часу паглядваў на сінічку.

А яна, усё яшчэ баючыся і з трывогай заглядваючы ў глыб фортачкі, сантыметр за сантыметрам прыбліжалася па лінейцы, на якой быў адмераны яе лёс.

— Можна, я вазьму яшчэ адно зернетка?

І сінічка, палохаючыся шуму ўласных крылаў, паляцела з чарговай канаплінкай на дрэва.

— Ну, дазволь, калі ласка яшчэ адно?

Але вось засталося апошняе зернетка. Яно ляжала на самым канцы лінейкі. Зернетка аказалася такім далёкім, а ісці па яго было так страшна!

Сінічка, спалохана заміраючы і насцярожваючы крылы, падкралася да самага канца лінейкі і аказалася ў маім пакоі.

З баязлівай цікаўнасцю ўглядалася яна ў няведамы свет. Яе асабліва здзівілі жывыя зялёныя кветкі і зусім летняе цяпло, якое так прыемна абвявала замерзлыя лапкі.

— Ты тут жывеш?

— Тут.

— А чаму тут няма снегу?

Замест адказу я павярнуў выключальнік. Пад столлю ярка ўспыхнула матавае святло жырандоля.

— Сонца! — здзівілася сінічка. — А гэта што?

— Гэта ўсё кнігі.

— Што такое кнігі?

— Яны навучылі запальваць гэтае сонца, вырошчваць кветкі і тыя дрэвы, па якіх ты скачаш, і яшчэ многаму. А яшчэ навучылі насыпаць табе канапляных зярнятак.

— Гэта вельмі добра. А ты зусім не страшны. Хто ты?

— Я — чалавек.

— Што такое „чалавек"?

Растлумачыць гэта было цяжка і я сказаў:

— Бачыш нітку? Яна прывязана да фортачкі...

Сінічка спалохана агледзелася.

— Не бойся. Я гэтага не зраблю. Гэта і называецца ў нас — Чалавек.

(Працяг на стар. 10)



Вечаслаў Залеўскі, вучань шостага класа з Пашкоўшчыны, пераняў ад свайго таты ўлюбёнасць да ігры на акардэоне.
Фота М. Гайдука.



Аліна Андрэюк з Махнатага на ўроку музыкі адказвае пры музычнай дошцы — выігрывае зададзеную мелодыю.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Марк Смагаровіч

## ГЛЯДЖУ КІНО...

*Я навасёл. Мой новы дом.*
*Лес у мяне перад акном.*

*Падзьме вятрыска — звонка ўвесь*
*Адразу ажывае лес.*

*У скокі бор ідзе сасновы,*
*Трасе калматыя галовы.*

*Гляджу на лес я праз акно,*
*Як на экран. Гляджу кіно.*

## МАРОЗНАЯ РАНІЦА

*Марозу моцнага такога*
*У нас даўно ўжо не было:*
*Трашчыць пад ботамі дарога,*
*Як бы цыам матавае шкло.*

*Трымціць абшар, марозам скуты,*
*Разліты яркі бляск зары,*
*Нібы ружовы шар надзьмуты,*
*І я блукаю ў тым шары.*

## ПРЫХОД ЗІМЫ

*Свой абход зіма ўжо робіць.*
*З дрэў звісаюць ледзяшы.*
*На палетках хлебаробы*
*Працавалі ад душы.*

*Бульба выбрана усюды.*
*І цяпер вось на канец*
*Сеў снягір чырванагруды —*
*Першы зімні пасланец.*

*Сонца дыняй пераспелай*
*Над пагоркам усплыло.*
*Пад пуховай коўдрай белай*
*Прытаілася сяло.*

## ЯНЫ БЫЛІ У „АРЛЁНКУ"

У час канікул гарцэры з Падставовай школы № 2 у Беластоку правялі цэлы месяц у Савецкім Саюзе, у Крыму. Гэты выезд яны атрымалі ва ўзнагароду за першае месца ў агульнапольскім турніры гарцэрскага сцяга, які адбыўся ў снежні мінулага года. Вучні гэтай школы шмат папрацавалі, каб іх дружына магла стаць добрай. Яны зрабілі конкурс на фестывальную кветку, збіралі подпісы людзей, якія змагаюцца за мір ва ўсім свеце. І заваявалі першае месца.

У ліпені дзеці паехалі поездам у Маскву. Іх там вельмі ўрачыста сустрэлі піянеры маскоўскіх школ. У Маскве прабылі яны некалькі дзён, аглядалі горад, пабывалі ў маскоўскіх музеях. Былі таксама і на Чырвонай плошчы, дзе наведалі маўзалей У. І. Леніна.

Праз некалькі дзён самалётам паляцелі ў Крым, у міжнародны піянерскі лагер „Арлёнак". „Арлёнак" — гэта не толькі лагер, гэта цэлы піянерскі гарадок, дзе можна сустрэць дзяцей з усяго свету. Нашы дзеці ўпершыню бачылі прыгожую крымскую зямлю, яе раслiннасць, незабыўныя краявіды і, вядома, Чорнае мора.

Дзеці штодзень купаліся ў

(Працяг на стар. 10)

# У ДАПАМОГУ ТРЭЦЯМУ КЛАСУ

Дарагія трэцякласнікі! „Зорка“ даведалася, што ў многіх з вас няма падручнікаў для вывучання роднай мовы.

Сапраўды, новы падручнік для трэцяга класа па беларускай мове яшчэ знаходзіцца ў друку і з'явіцца ў продажы не раней, як вясною.

Таму, імкнучыся дапамагчы вам вывучаць беларускую мову, мы пачынаем друкаваць чытанкі і дапаможныя тэксты з новага падручніка.

Ад гэтага моманту кожны з вас павінен мець сваю ўласную „Зорку“ і карыстацца ёю на уроку так, як скажа вам ваша настаўніца.

Настаўнікаў жа вельмі просім прысылаць да „Зоркі“ свае заўвагі адносна перадруку ў „Зорцы“ новага падручніка. Рэдакцыя вельмі хацела б ведаць, наколькі гэтыя матэрыялы прыдатны вам на ўроках.

Новы падручнік мае загаловак „Зярняткі“. Напісалі яго аўтары папярэдняга падручніка для трэцяга класа Лідзія і Мікалай Гайдукі. Але падручнік зусім іншы, новы, больш цікавы і сучасны.

Маем надзею, што і вам ён спадабаецца.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

### КАЗКІ З САЛОМКІ

Аднойчы летам, калі сонейка толькі-толькі выкацілася з-за лесу, Таня выбегла ў поле і раптам убачыла бабульку Веру. Яна несла сноп саломы.

— Куды ты саломку нясеш, бабулька? — запытала Таня.

А бабулька нічога не адказала, толькі таямніча ўсміхнулася, снопік перад Таняй разгарнула і нажніцы з фартуха дастала.

— Рэжся, саломка, вялікая і маленькая, танюткая і таўсценькая, — прыгаворвала бабулька і саломку ўсё рэзала на кавалачкі.

Потым некалькі кавалачкаў яна ўзяла ў рукі, у пучочак звязала, раз-другі павярнула, вузельчыкі распраслала і пачала зноў прыгаворваць:

— Пляціся, пляціся, саломка, у крылцы сплятайся, у лапкі скручвайся, у грабеньчык вяжыся! На табе і пеўнік! — І бабулька паказала на далоні саламянага пеўніка.

Раптам здалося Тані, што гэты пеўнік крыламі замахаў і заспяваў: „Ку-ка-рэ-ку-у!“ Быццам курачак да сябе ў госці склікаў.

Бабулька ж зноў узяла ў рукі саломку і пачала прыгаворваць:

— Пляціся, саломка, пляціся, у хатку абярніся!

Тут і хатка саламяная з'явілася. А з хаткі дзяўчынка маленькая выходзіць, курачак зярняткамі корміць.

— Ай! — усклікнула Таня ад захаплення. — Навучы мяне, бабулька, пеўнікаў плесці і чароўныя словы прыгаворваць.

— Добра, — згадзілася бабулька. — Я навучу цябе і казку плесці і чароўныя словы прыгаворваць, толькі ты за гэта павінна сяброўак сваіх сабраць і казку ім пераказаць.

— Абавязкова перакажу, бабця! — паабяцала Таня.

Бабулька ёй словы чароўныя сказала, як казку плесці паказала, і адразу Таніны рукі за саломку ўзяліся. Саломка быццам сама ў казку пачала плесціся.

З таго часу кожную раніцу бегае Таня ў поле, саломку збірае, казкі з яе пляце ды потым сяброўкам расказвае.

Мікола Лобан

*1. Пры чым застала Таня бабульку Веру?*

*2. Як бабулька працавала нажніцамі з саломкай?*

*3. Што спляла бабулька з саломкі?*

*4. Чаму навучылася Таня ў бабулькі?*

*5. Адкажыце на пытанні пра занятkі людзей у вашай мясцовасці: а) Што ткуць з лёну, канапель, воўны? б) Якія рэчы робяць з дрэва, лазы, саломы? в) Што вы самі або вашыя старэйшыя сёстры і браты патрапіце рабіць з дрэва, саломкі, лазы, бярозавых галінак?*

*6. Прачытайце. Падзяліце на сказы. Прыдумайце загаловак. Пры спісванні памятайце, дзе трэба напісаць вялікую літару, а дзе неабходна паставіць кропку.*

Валя дзяжурная яна першай прыйшла ў школу дзяўчынка намачыла губку і да бляску выцерла дошку прынесла крэйду адчыніла фортачку і праветрыла клас потым паліла кветкі ў вазонах школа зазвінела ад дзіцячых галасоў перад пачаткам урока Валя ўважліва праверыла, ці ўсе маюць падручнікі, сшыткі, ручкі затым яна сказала выхавацельцы, хто адсутнічае на занятках настаўніца была вельмі задаволена сваёй памочніцай.



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА“

*Пішуць да Цябе вучні V—VI класаў Падставовай школы ў Вульцы Нурэцкай. У пятым класе вучыцца сем вучняў, а ў шостым — пятнаццаць. Мы пішам Табе аб восені, якую мы спаткалі на апошняй экскурсіі. У лесе мы былі са сваёй выхавацелькай. Па дарозе мы бачылі што з дрэў ападае жоўтае, чырвонае і залатое лісце, бачылі, хлопцаў, якія збіралі грушы, яблыкі, слівы. У лесе мы назбіралі грыбоў і заўважылі, што птушкі не пяюць так, як летам. Настаўніца нам растлумачыла, што птушкі паляцелі далёка-далёка, за мора, у вырай. А вернуцца яны вясною і зноў нам заспяваюць.*

*Дарагая „Зорка“! Мы вельмі хочам, каб Ты нас наведала ў школе. Вучні нашай школы падрыхтуюць многа вершаў, песень, а можа нават і сцэнку для Цябе.*

*Мы Цябе просім, каб Ты прыехала да нас 23 лістапада, у суботу. Мы запросім яшчэ дзяцей са школы ў Тымянцы. Вельмі чакаем Твайго прыезду.*

Вучні пятага і шостага класаў з Вулькі Нурэцкай.

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Я вучуся ў трэцім класе Падставовай школы № 3 у Бельску. Пасылаю Табе свой вершык.*

*На кветцы сядзіць пчала,*
*каб салодкі мёд дала.*
*Бо я вельмі мёд люблю,*
*Кожны дзень лізаць хачу!*

Мэтэнько Сабіна

## Пазнаёмімся

* * *

СССР, Ставропольский край, г. Железноводск, ул. Партизанская, 10. Ерёминой Жанне. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 346553, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Аютинский, ул. Котовского, 17. Фёдоровой Лене. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Первомайская, 41, кв. 6. Абросимовой Лиле. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 44/15. Жмайловой Людмиле. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий район, ст. Мелиховская, ул. Советская, 2. Поляниной Наташе. 13 год.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 39, кв. 10. Рыта Ягорава. 6 клас.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 57, кв. 73. Света Красулевіч. 6 клас.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Баумана, 35. Алексеенко Тане. 4 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Балтийская, 37/4. Запорожцевой Тане.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты-14, ул. Хабарова, 22, кв. 3. Рытченко Ирине. 4 клас.

(Працяг са стар. 9)

### ЯНЫ БЫЛІ Ў АРЛЁНКУ“

моры, загаралі, займаліся спортам, развучвалі розныя піянерскія і іншыя песні. Пазнаёміліся гарцэры таксама з гісторыяй паўвострава, пазналі слаўныя гарады-героі, даведаліся аб легендарным ужо геройстве савецкіх маракоў у час абароны ўзбярэжжа Чорнага мора. Ездзілі таксама на экскурсіі ў іншыя гарады. За час пабыўкі ў Савецкім Саюзе польскія гарцэры пасябравалі з іншымі дзецьмі, абмяняліся адрасамі і цяпер перапісваюцца паміж сабою.

У час заняткаў, асабліва па рускай мове, мы часта чытаем супольна пісьмы, атрыманыя ад піянераў з розных гарадоў Савецкага Саюза, успамінаем незвычайныя канікулы, глядзім слайды. Кабінет рускай мовы ў школе ўпрыгожваюць шматлікія падарункі, якія атрымалі нашы гарцэры ад сваіх аднагодкаў. Цяпер дзеці мараць аб сустрэчы са сваімі новымі сябрамі. Можа, удасца запрасіць некаторых з іх прыехаць да нас у госці? Жыццё пакажа. А пакуль што прыемна паўспамінаць, прыпомніць цёплае сонца, ласкаючае мора і надзейныя рукі сяброў.

Аліна Якімюк

(Праця́г са стар. 9)

### ТРЫЦЦАЦЬ ЗЯРНЯТАК

— А мне можна з'есці гэтае апошняе зернетка?

— Вядома. Я хачу, каб ты прылятала да мяне кожны дзень. Ты будзеш мяне наведваць, а я буду працаваць. Згодна?

— Згодна. А што такое „працаваць“?

— Бачыш, гэта такі абавязак кожнага чалавека. Без працы нельга. Усе людзі павінны нешта рабіць. Гэтым яны дапамагаюць адзін другому.

— А чым ты дапамагаеш людзям?

— Я хачу напісаць кнігу. Такую кнігу, каб кожны, хто прачытае яе, паклаў бы на сваім акне па трыццаць канапляных зярнятак...

Але, здаецца, сінічка ўжо не слухала мяне. Абхапіўшы лапкамі зернетка, яна даверліва раздзёўбвала яго на канцы лінейкі.

## Вясёлы куточак

* * *

— У якім напрамку мы ідзем? — запытаў дружыновы.

—У паўднёвым! — адказаў зух.

— Чаму ты так думаеш?

— Бо робіцца цяплей.

* * *

— Міша і Коля, не дурэйце, бо я пастаўлю вас у куток.

— У розныя куткі?

— Не, у адзін.

— Гэта можа быць. Будзе весялей.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Якую лічбу трэба ўпісаць у сярэдні кружочак, каб сума ва ўсіх напрамках з трох лікаў раўнялася 50?



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# ДОБРЫ ЗЯЦЬ

Ну, дальбог, праеў нутро
Балабоннасцю Пятро.
Пры сустрэчы кожны раз
У яго — адзіны сказ:
— Паглядзелі б, хлопцы, вы
Майго ўнука — міравы!..
— Ну, а бацька — ваш зяцёк?
Ад дачкі яшчэ не ўцёк? —
Спіцу ставім у рабро.
Ды няўрымслівы Пятро:
— Зяць мой — проста чынам
чын —
Дзе знайсці такіх мужчын!
Ла мяне ў кватэру ён,
Быццам дбайны паштальён,
Ветла стукае штодня.
Зяць мой — добрая радня...
Сунем зноў мы грошы тры:
— Як яго страчаеш ты?
— Дзіўна кажаце вы — як?
У мяне заўжды каньяк
На запас у хаце ёсць.
Мой жа зяць — не проста госць.
У мяне ён — гаспадар,
Я машыну перадаў.
Водзіць — вецер свішча аж,
Даў я грошай на гараж.
Ён наладзіў дачу мне! —
Душу хціўцу скалане.
Я затое, хлопцы, рад —
Ёсць каму дагледзець сад.
— Запрасі і нас калі, —
Дружна ўсе мы загулі.
І пачулася ў адказ:
— Запрасіў бы шчыра вас
На сядзібу, хлопцы, я.
Дык жа ўласнасць не мая...
Ведама, што іншы зяць
Любіць з цесця добра ўзяць.
Ну, а ў вас, матулі, таты,
То ж зяці такія хваты?

**Іван Курбека**

**З чаго смяюцца суседзі.**



**Без слоў.**

# НІЎКА





**Абмінаў усіх бокам. Так і прайшоў жыццё ўзбочынай.**

**ФАЛЬКЛОР**




### ВЫБРАЛА
**(жартоўная)**

Выпраўляла міне маці,
выпраўляла міне маці,
выпраўляла міне маць —
зеляное жыто жаць.
А я жытка ні жала,
а я жытка ні жала,
а я жытка ні жала —
у баразёнцы лежала.
Баразёнка узёнка,
баразёнка узёнка,
баразёнка узёнка —
ні памесцімся.
А я з тае ахоты,
а я з тае ахоты,
а я з тае ахоты —
да й нажала чтэры снопы.
Чтэры снопы нажала,
чтэры снопы нажала,
чтэры снопы нажала —
палічыць як ні знала.
Трэба людзі папрасіці,
трэба людзі папрасіці,
трэба людзі папрасіці —
тыя снопы палічыці.
Прыйшлі бедны і багаты,
прыйшлі бедны і багаты,
прыйшлі бедны і багаты —
было з чаго выбіраці.
Я выбрала хлопца-зуха,
я выбрала хлопца-зуха,
я выбрала хлопца-зуха —
без чаботаў, без кажуха!

**Ад Монікі Федаровіч, 1922 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Муж у ложку. У яго грып.
— Дарагая, калі я памру, ты будзеш хоць крыху сумаваць па мне?
— Вядома, дарагі, ты ж ведаеш, што я плачу па кожнаму глупству.

*

— Кажуць, што містэр Холдэн у маладосці быў чысцільшчыкам і толькі пазней стаў банкірам.
— Гэта так. Толькі чысціў ён не абутак, а сейфы.

*

Аб'ява ў мэблевым магазіне:
„Калі ў вас не хапае грошай на набыццё антыкварнай мэблі, вы можаце купіць у нас сучасную ў крэдыт. Пакуль вы заплаціце за яе, яна ўжо стане антыкварнай.

### НАДЗЕЙНЫ ГАДЗІННІК

Запрасіў кум кума ў госці. Зайшлі на панадворак. На грушы вісіць рэйка і малаток.
— Што гэта ў цябе такое?
— А гэта гадзіннік з галасам.
Павячэралі. Госць і пытае:
— А ўсё-ткі цікава, як працуе той гадзіннік...
— Пайшлі, я пакажу...
Выйшлі на двор. Кум пачаў біць малатком па рэйцы. Выбегла суседка ды й крычыць: „Што ты, ірад, робіш? Ужо дванаццатая гадзіна ночы!" — „Вось бачыш, і даведаліся, якая гадзіна".

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### КАШТОЎНАЯ ПРАПАНОВА

Звыш мільёна злотых гадавой эканоміі можа даць прапанова дырэктара НДІ-кнопкі А. Трытановіча. Ён прапанаваў навуковаму супрацоўніку М. Святкавюку адыйсці па ўласнаму жаданню.

### БОНТОН

Калі вы прыкмецілі, што ў кагосьці дзесьці расшпілена маланка, шаптацца і сакрэтнічаць наконт гэтага ў кампаніі непрыстойна. Лепш сказаць гэта ўголас.



**Няўдачнік.**





# Курёзы

### ЗЛАШЧАСНЫЯ МАКАРОНЫ

Не так даўно адна буйная амерыканская фірма вытворчасці макаронаў, прапанавала вядомай... італьянскай кіназорцы Сафі Ларэн прыняць удзел у рэкламе вырабаў фірмы. Сафі Ларэн аматарка „спагеці" і ўмее прыгатаваць іх асабіста па вельмі многіх рэцэптах, якія яна збірала на працягу шэрагу гадоў і нават сама выдала некалькі кніг па кулінарыі. Сафі не проста знакамітасць, яна аўтарытэт!

Сафі Ларэн... адмовілася ўдзельнічаць у рэкламе, хоць ёй прапанавалі за гэта ганарар у памеры аж 450 тысяч долараў.

Збянтэжаная фірма вырашыла ў піку ганарлівай кіназорцы пайсці на саюз з сапернiцай Сафі Ларэн Джынай Лолабрыджыдай: мабыць, няхай Ларэн укусіць сябе за локаць! Ну, а паколькі Джына пакуль што менш знакамітая за Сафі, то ёй быў прапанаваны ганарар за рэкламу макаронаў у 350 тысяч долараў. Як жа былі шакіраваны чытачы, калі даведаліся, што і Джына адмовілася ад прапанаванага кантракту!

Урэшце рэшт рэкламаваць злашчасныя макароны пагадзілася трэцяя, зусім яшчэ маладая італьянская кіназорка Клаўдзія Кардына, і ўсяго толькі за 250 тысяч долараў.




**Калі смяешся над самім сабою, заўсёды знойдуцца аднадумцы.**